© ПАЛІТЫЧНАЯ СФЕРА
ISSN 1819–3625 №16-17(1-2), 2011

Уладзімір Шчэрбаў

# Усходняя Еўропа – адзіная вялікаю крывёю

Snyder, Timothy (2010). *Bloodlands. Europe between Hitler and Stalin.* New York: Basic Books. 524 p.

«*Гэта ў большай ступені кніга пра наўмысныя масавыя забойствы, чым кніга пра злачынствы. Гэта хутчэй кніга пра цывільных асобаў (і ваеннапалонных), чым кніга пра салдатаў на службе. Бачачы гэтую розніцу і робячы выключэнні, я ні ў якім разе не сцвярджаю, што гэтыя людзі не былі ахвярамі, наўпроставымі або ўскоснымі, нацысцкай і савецкай сістэмаў. Я не хачу прыменшыць жах нямецкіх і савецкіх канцлагераў або смяротную сутнасць этнічных чыстак, або рэпрэсіўны характар прымусовай працы, або жудасную колькасць ахвяраў вайны. Я хачу праверыць тэзіс пра тое, што наўмысныя і непасрэдныя масавыя забойствы, якія гэтыя два рэжымы ажыццявілі на крывавых землях, ёсць асобным феноменам, што заслугоўвае асобнага разгляду, г. зн. напісання гісторыі наўмыснага забойства чатырнаццаці мільёнаў чалавек двума рэжымамі за кароткі час у асобных частках Еўропы*» (с. 387).

Прафесар Ельскага ўніверсітэта Тымаці Снайдэр – адзін з найбольш аўтарытэтных замежных гісторыкаў, якія займаюцца Усходняй Еўропай XX стагоддзя. У сваёй новай кнізе ён уводзіць і раскрывае новы геаграфічна-гістарычны панятак: «*у цэнтры Еўропы ў сярэдзіне XX стагоддзя нацысцкі і савецкі рэжымы забілі каля чатырнаццаці мільёнаў чалавек. Мясцовасць, дзе загінулі ўсе гэтыя людзі,* ***крывавыя землі****, цягнецца ад цэнтральнай Польшчы да заходняй Расіі, праз Украіну, Беларусь і прыбалтыйскія дзяржавы*» (с. 5).

Хаця літаратура пра ахвяры двух таталітарных рэжымаў у 1930–1940-я гады налічвае сотні (калі не тысячы) назваў, пра вычарпальнае даследаванне тэмы гаварыць не выпадае нават сёння, праз больш як паўстагоддзя пасля саміх падзеяў і праз два дзесяцігоддзі з пачатку ўвядзення ў навуковы абарот вялікага масіву раней засакрэчаных савецкіх архіўных звестак. У сваім даследаванні Снайдэр вылучае асобную

катэгорыю ахвяраў – няўзброеных людзей (цывільных асобаў і ваеннапалонных), якія былі мэтанакіравана забітыя двума рэжымамі, а не сталіся пабочнымі ахвярамі іх палітыкі або загінулі на полі бою. Агульная лічба – 14 мільёнаў – атрымалася ў аўтара пры падсумаванні наступных складнікаў:

– 3,3 мільёна савецкіх грамадзянаў (галоўным чынам украінцаў), замораных голадам у савецкай Украіне ў 1932–1933 гадах;

– 300 тысячаў савецкіх грамадзянаў (галоўным чынам палякаў і ўкраінцаў), расстраляных у заходняй частцы СССР – з ліку прыкладна 700 тысяч ахвяраў «Вялікага тэрору» 1937–1938 гадоў;

– 200 тысячаў польскіх грамадзянаў (галоўным чынам палякаў), расстраляных абодвума рэжымамі ў акупаванай Польшчы ў 1939–1941 гадах;

– 4,2 мільёна савецкіх грамадзянаў (галоўным чынам рускіх, беларусаў і ўкраінцаў), якіх нямецкія акупанты замарылі голадам у 1941–1944 гадах;

– 5,4 мільёна габрэяў (галоўным чынам польскіх і савецкіх грамадзянаў), атручаных газам або расстраляных немцамі ў 1941–1944 гадах;

– 700 тысячаў цывільных асобаў (галоўным чынам беларусаў і палякаў), расстраляных немцамі падчас акцыяў «адплаты», пераважна ў Беларусі і Варшаве, у 1941–1944 гадах (с. 388).

Пры гэтым Снайдэр настойвае, што не хоча ніякім чынам прыменшыць жах нямецкіх і савецкіх канцлагераў або смяротную сутнасць этнічных чыстак, або рэпрэсіўны характар прымусовай працы, або жудасную колькасць ахвяраў ваенных дзеянняў. Аўтар лічыць, што гісторыя крывавых зямель не напісаная, ды імкнецца запоўніць гэты прагал: «*масавыя забойствы аддзялілі габрэйскую гісторыю ад еўрапейскай гісторыі, а ўсходнееўрапейскую гісторыю ад заходнееўрапейскай. Забойствы не ствараюць нацыяў, але дасюль абумоўліваюць іх інтэлектуальны падзел праз дзесяцігоддзі пасля скону нацыянал-сацыялізму і сталінізму. Гэтае даследаванне лучыць нацысцкі рэжым з савецкім, габрэйскую гісторыю з еўрапейскаю гісторыяй і аб'ядноўвае нацыянальныя гісторыі. Яно апісвае ахвяраў і злачынцаў. Яно абмяркоўвае ідэалогіі ды планы, сістэмы ды грамадствы*» (с. 15).

Кніга атрымала вельмі пазітыўныя водгукі ў заходняй прэсе – «у высокай ступені арыгінальная кніга» (The Jewish Journal, 31 Dec 2010), «прымушае пераасэнсаваць усім вядомыя эпізоды еўрапейскай гісторыі» (The Economist, 14 Oct 2010) і г. д. Сапраўды, праца Снайдэра – амаль максімум змястоўнасці і фактал агічнай карэктнасці, якога здольныя дасягнуць заходнія даследнікі пры даследаванні падзеяў 1930–1940-х гадоў на нашых прасторах. Да таго ж, кніга напісаная лёгка, цікава, месцамі нават паэтычна: «*руіны разбуранай нацыстамі Варшавы былі яшчэ цёплыя, калі пачалася халодная вайна*» (с. 298).

Снайдэр сцвярджае, што «*кніга грунтуецца на даследаваннях у*

*шэрагу архіваў цягам доўгіх гадоў. Акрамя таго, архівы былі месцам значнай часткі развагаў*» (с. 398). Сапраўды, напрыканцы кнігі прыводзіцца спіс двух дзясяткаў архіваў (беларускіх сярод іх няма), але спасылак на архіўныя справы ў кнізе вобмаль. Дый увогуле, факты і лічбы, што прыводзяцца ў працы, не толькі ўзятыя з ранейшых публікацыяў, але і ў значнай частцы належаць да поп-гісторыі: калі блакадны Ленінград, дык Таня Савічава і Шастаковіч (с. 174–176), калі Халакост і партызанскі рух у Беларусі, дык Туўя Бельскі (с. 231).

У бібліяграфіі – больш за 700 кніг і артыкулаў: «*даследаванне ўключала чытанне на нямецкай, польскай, рускай, украінскай, беларускай, ідыш, чэшскай, славацкай, французскай і, натуральна, англійскай мовах*» (с. 399). Але пры гэтым спасылкі на працы беларускіх гісторыкаў – адзінкавыя. Увогуле, савецкая і постсавецкая гістарыяграфія прадстаўленыя ў кнізе вельмі слаба. Такім чынам, большасць фактаў і лічбаў, што тычацца савецкай гісторыі, Снайдэр пазычае з другіх або нават трэціх рук. У выніку чытачам прапаноўваецца пераказ анекдотаў пра Сталіна, які не любіў японцаў, бо любіў вальс «На сопках Маньчжурыі» (с. 42), або пра тое, што для параду на Чырвонай плошчы 7 лістапада 1941 года ён адклікаў дывізіі з абарончых пазіцыяў на захадзе ад Масквы (с. 220). І гісторыі гэтыя выглядаюць амаль бясспрэчнымі фактамі. Добра, што «пасярэднікі» – досыць добрасумленныя аўтары, так што раскідзістых журавінаў у кнізе няшмат, дый адказнасць за іх у любым выпадку акуратна перакладзеная на «першакрыніцы».

Значна больш у працы факталагічных памылак і недарэчнасцяў, пра якія добразычлівы крытык скажа: але ж па сутнасці – правільна. Хай Снайдэр памыляецца ў тым, што немцы пачалі выкарыстоўваць «душагубкі» ў Беларусі ўвосень 1941 года (с. 186), але ж душагубкі ў Беларусі былі, хаця і пазней. Хай сцверджанне, што «*партызаны, з іхнага боку, пачалі ў 1943 годзе рэкрутаваць беларускіх паліцаяў на нямецкай службе, бо гэтыя людзі хаця б мелі нейкае ўзбраенне і былі абучаныя*» (с. 236), смешнае, але ж сапраўды гучалі заклікі да паліцаяў пераходзіць на бок партызанаў. Хай немцы не расстрэльвалі жанчын у савецкай ваеннай форме толькі за тое, што яны ў форме (с. 169), але ж расстрэлы жанчын у ваеннай форме мелі месца. «Паводле сутнасці правільна», але ад прафесійнага гісторыка звычайна чакаецца большая дакладнасць – нават з улікам высокай насычанасці тэксту факталагічным матэрыялам.

Крытычная залежнасць ад якасці зыходных даследаванняў, амаль непазбежная ў выпадку кампілятыўных працаў кшталту снайдэраўскай, асабліва яскрава праявілася ў галіне лічбаў. Напрыклад, аўтар піша, што падчас антыпартызанскіх акцыяў немцы забілі ў Беларусі 320 тысячаў чалавек, якіх яны лічылі партызанамі, але насамрэч большасць іх адносілася да няўзброенага цывільнага насельніцтва (с. 243). Спасылка даецца на працу Крыстыяна Герляха «Пралічанае забойства» (Gerlach,

1999) – шмат у чым фундаментальную, але якраз не ў гэтым аспекце. Найбольш вычарпальнае на сёння абагульненне звестак наконт колькасці ахвяраў антыпартызанскіх акцыяў у Беларусі паказала, што разам з 5295 беларускімі вёскамі, цалкам або часткова знішчанымі акупантамі, загінулі каля 150 тысячаў іх жыхароў (Нацистская политика, 1984). Зразумела, што ахвярамі карных акцыяў былі не толькі вяскоўцы, але няма сумневу, што яны складалі абсалютную большасць загінулых. Лічба 320 тысячаў падаецца крайне завышанай ацэнкаю.

І хаця Снайдэр прэтэндуе на крытычнае стаўленне да лічбаў, пазычаных у іншых аўтараў, некаторыя прыклады гэтага стаўлення дзівяць сваёй адвольнасцю. Возьмем развагі пра Ленінград: «*на момант сканчэння блакады ў 1944-м памерлі каля аднаго мільёна чалавек*» *(с. 174);* «*адзін мільён – гэта ацэнка, якую мы звычайна сустракаем у заходняй літаратуры; глядзі, напрыклад, Кіршэнбаўм, "Блакада" і Сэйлзбэры, "900 дзён". Савецкая ацэнка – 632.000*» (с. 465)*;* «*я лічу, што руская ацэнка колькасці памерлых у Ленінградзе заніжаная прыкладна на чатырыста тысячаў чалавек, так што я дадаў іх [да колькасці ахвяраў]*» (с. 492).

Можна дараваць Снайдэру тое, што ён не знаёмы з найбольш усебаковым і грунтоўным даследаваннем праблемы, якое падае лічбу 653 тысячы памерлых ленінградцаў за першы год блакады (Жизнь и смерть…, 2001: 79): на гэты год прыпадае абсалютная большасць заўчасных смерцяў падчас блакады. Нельга абняць неабдымнае, аднак спасылка на лічбы, якія «*мы звычайна сустракаем у заходняй літаратуры*», хаця і бяспечная ў плане абароненасці ад заходніх крытыкаў, выглядае бездапаможнай у святле другаснасці і павярхоўнасці гэтай самай літаратуры – як наконт блакаднага Ленінграда, так і наконт вялікай колькасці іншых пытанняў савецкай гісторыі.

Зразумела, хібы ў гэтых ацэнках не ўплываюць на агульны лік ахвяраў на крывавых землях, што вядзецца на мільёны і складаецца з такіх жа лічбаў, якія мы «звычайна сустракаем». Што ж тычыцца Беларусі, то адзіным бясспрэчным момантам адпаведнага падрахавання ёсць катэгарычная нязгода з лукашэнкаўскаю прыдумкаю пра «кожнага трэцяга». На жаль, спроба вызначыць рэалістычны дыяпазон агульных людскіх стратаў робіцца ў кнізе вельмі неахайна.

У адным фрагменце Снайдэр кажа аб прыкладна 1,6 мільёна чалавек, забітых немцамі *на* тэрыторыі Беларусі не на полі бою (з ліку 9 мільёнаў, што былі на яе тэрыторыі ў чэрвені 1941 года): 700 тысячаў ваеннапалонных, 500 тысячаў габрэяў і 320 тысячаў цывільных асобаў, забітых падчас антыпартызанскіх акцыяў (да абгрунтаванасці першых дзвюх лічбаў пытанняў не менш, чым да апошняй). У выніку дадавання да іх «*сотняў тысячаў ураджэнцаў Беларусі, што загінулі на фронце*», і яшчэ шэрагу катэгорый ахвяраў (напрыклад, асобаў, забітых партызанамі) Снайдэр атрымлівае 2 мільёны чалавечых стратаў (с. 243). Пры гэтым ён

змешвае чыннікі месца смерці і паходжання загінулых ды ігнаруе той факт, што толькі нязначная частка савецкіх ваеннапалонных, якія загінулі ў Беларусі, былі яе ўраджэнцамі, тады як на фронце ўраджэнцы Беларусі гінулі галоўным чынам за межамі БССР; напрыканцы вайны – увогуле за межамі «крывавых зямель». У іншым фрагменце (с. 380) гаворыцца ўжо пра 20 % загінулых з ліку даваеннага насельніцтва, г. зн. пра 1,8 мільёна чалавек. Звесці канцы ў падліках аўтара досыць складана, таму ёсць падазрэнне, што «кожнага пятага» ён вылічваў гэтак жа сама, як і ахвяраў у блакадным Ленінградзе – проста крыху зменшыўшы машэраўскага «кожнага чацвёртага».

Снайдэр лічыць, што «*эпоха масавых забойстваў у Еўропе затэарэтызаваная і неадэкватна асэнсаваная*» (с. 360), і прапаноўвае сваё разуменне трагічных падзеяў. Галоўная ягоная тэза – ахвяры нацызму і сталінізму былі ў значнай ступені іх агульнымі ахвярамі, пры тым што на спускавыя кручкі нямецкія і савецкія каты націскалі паасобку, – добра праілюстраваная і ёсць галоўным упрыгожаннем кнігі. Аднак у імкненні вычарпальна прадэманстраваць тыпалагічнае падабенства і смяротную супрацу двух рэжымаў Снайдэр, з аднаго боку, нагрувашчвае абстрактныя канструкцыі, па якіх плача лязо Окама: «*Для Сталіна пакарэнне Украіны і панаванне над ёю былі перадумовай і доказам трыумфу ягонай версіі сацыялізму*» (пра Галадамор, с. 163). З другога, упадае ў кранальны прымітывізм: «*абодва разумелі кідкі прызыў сучасных матэрыялаў: Сталін назваў сябе ад сталі, а Гітлер надаваў асаблівую ўвагу яе вытворчасці*» (с. 160).

Абедзве крайнасці можна было б дараваць, калі б паміж імі змяшчаліся пераканаўчыя канцэпцыі «сярэдняга» ўзроўню, непасрэдна датычныя матываў і механізмаў масавых забойстваў. На жаль, шмат якія з іх таксама выглядаюць штучнымі і трымаюцца на тэндэнцыйнай інтэрпрэтацыі асобных падзеяў ды прыцягненні сумнеўных сведчанняў.

Наўздагон савецкім падручнікам Снайдэр сцвярджае, што план каланізацыі заходняй часткі Савецкага Саюзу, так званы Генеральны план «Ост», прадугледжваў знішчэнне каля 50 мільёнаў чалавек. Варта адзначыць, што гэты план не знойдзены да сёння. Дагэтуль няма сведчанняў, што ён быў зацверджаны кіраўніцтвам Трэцяга Рэйху, не гаворачы пра яго практычную рэалізацыю. «Рэканструкцыя» плану гісторыкамі грунтуецца на дакументах другарадных нацысцкіх чыноўнікаў, якія каментавалі праект плану або распрацоўвалі асобныя яго аспекты. Пры гэтым, наколькі можна меркаваць з дакументаў, план «Ост» не прадугледжваў знішчэння людзей.

Напрыклад, вось што чакала беларусаў у выпадку зацвярджэння плану і яго рэалізацыі (пасля перамогі над Савецкім Саюзам): «*згодна з планам, прадугледжваецца высяленне 75 адсоткаў беларускага насельніцтва з тэрыторыі, якую яно займае. Гэта значыць, што 25 адсоткаў, згодна з планам галоўнага ўпраўлення*

*імперскай бяспекі, падлягаюць анямечванню»* – гэта вытрымка з каментароў да плана нейкага Вэцэля, начальніка аддзела каланізацыі першага галоўнага палітычнага ўпраўлення Усходняга міністэрства, датаваных красавіком 1942 года (Generalplan, 1958: 310). Акрамя гэтага, анямечванне, паводле Вэцэля, прадугледжвала абыходжанне з пакінутаю на тэрыторыі Беларусі чвэрцю беларусаў, «*як з немцамі, і з прычыны адсутнасці ў іх нацыянальных пачуццяў яны ў хуткім часе, прынамсі, у бліжэйшым пакаленні, маглі б зрабіцца цалкам анямечанымі*» (Generalplan, 1958: 311).

Яшчэ адзін няісны план, пра які ідзе гаворка ў кнізе, – гэта так званы План голаду, згодна з якім, паводле Снайдэра, нацысты збіраліся вывезці ежу з Украіны і Паўднёвай Расіі, з-за чаго ў Беларусі і паўночнай Расіі мусілі б памерці з голаду каля 30 мільёнаў чалавек (с. 165). Як і ў выпадку з планам «Ост», «План голаду» пакуль не знайшлі. На сённяшні дзень пад апошнім маецца на ўвазе нейкі агульны намер, які гісторыкі рэканструююць на аснове матэрыялаў гаспадарчай нарады наконт рэалізацыі плана «Барбароса» ды іншых ускосных сведчанняў.

Снайдэр прызнае, што абодва планы – гэта агульныя развагі, якія ніколі не былі рэалізаваныя, аднак настойвае, што яны сталіся «маральным падмуркам» свядомага вынішчэння людзей голадам. Маўляў, у «галадаючым Савецкім Саюзе» ўвосень 1941 года нямецкая армія забірала ўсе даступныя калорыі на свае патрэбы, а ваеннапалонным проста нічога не заставалася. Насамрэч, захопленых савецкіх запасаў (40 тысяч тонаў толькі на складах Заходняга фронту, а былі ж яшчэ і цывільныя склады: Бойко, 1966) разам з новым ураджаем, які ў 1941 годзе быў вельмі добры, хапіла б для забеспячэння як вермахта, так і нечаканa вялікай колькасці палонных чырвонаармейцаў.

Сапраўдным маральным падмуркам нечалавечых умоваў утрымання ў дулагах і шталагах (і спадарожнай звышвысокай смяротнасці іх вязняў) восенню 1941 года і зімою 1941–1942 гадоў была крайняя пагарда нацыстаў да савецкіх людзей. Гэтая пагарда не абумоўлівалася, а абмяжоўвалася эканамічнымі разлікамі – Снайдэр сам адзначае, што палонных пачалі лепш карміць, калі Рэйху спатрэбілася іхная праца. І ўвогуле, навошта прымаць у якасці рэальнай пагрозы жыццю людзей абсурдныя разлікі нацыстаў, згодна з якімі вываз харчоў з Украіны азначаў аўтаматычны голад у Беларусі?

Зыходзячы з наяўных крыніцаў, план «Ост» і «План голаду» не толькі ніколі не існавалі ў якасці завершаных і зацверджаных дакументаў, але нават у сваім змесце не мелі ніякага дачынення да пытанняў абыходжання з ваеннапалоннымі або насельніцтвам блакаваных гарадоў. А вось што тычыцца рэальнай рэквізіцыі харчоў для патрэбаў вермахта і цывільнага насельніцтва Германіі (якраз яны і мусілі інспіравацца «Планам голаду»), то масавага голаду яны не выклікалі, нават разам з партызанскімі рэквізіцыямі. Гэта пры тым, што большая частка Беларусі была пад нямецкай акупацыяй тры поўныя гады.

Увогуле, анімацыя няісных планаў – улюбёны канёк Снайдэра. Аказваецца: «*Халакост зацяняе германскія планы, якія прадугледжвалі забойствы нават у большых маштабах. Гітлер хацеў не толькі вынішчыць габрэяў; ён таксама хацеў ліквідаваць Польшчу і Савецкі Саюз як дзяржавы, вынішчыць іхныя кіроўныя класы і забіць дзясяткі мільёнаў славянаў (рускіх, украінцаў, беларусаў, палякаў)*» (с. 7).

Сапраўды, Гітлер хацеў знішчыць габрэяў. Несумненна, ён не бачыў Польшчы і СССР на палітычнай мапе будучага свету. Але з нацысцкімі планамі знішчэння славянаў усё яшчэ складаней, чым з планам «Ост»: іх не знайшлі. Адзінае, што здолеў адшукаць Снайдэр, – гэта сведчанні эсэсаўца Эрыха фон дэм Бах-Цэлеўскага (Erich von dem Bach-Zelewski), які камандаваў усімі нямецкімі антыпартызанскімі аперацыямі і выгандлеваў у амерыканцаў, якія яго злавілі, не толькі жыццё, але і свабоду: «*Гімлер хацеў знішчыць не толькі ўсіх габрэяў, але і 30 мільёнаў славянаў, а барацьба з партызанамі была насамрэч толькі падставаю для знішчэння і тых і другіх*» (с. 227).

Гімлер у той момант быў ужо мёртвы, аспрэчыць словы свайго падначаленага ён не мог. І калі Снайдэр знаходзіць магчымым паверыць Бах-Цэлеўскаму, то чаму ён не задаецца простым пытаннем: а навошта было Гімлеру шукаць падставы для знішчэння славянаў, калі гэтага ж хацеў і Гітлер? Навошта было ладзіць карныя аперацыі па лясах і балотах, калі мільёны патэнцыйных ахвяраў-славянаў былі ў непасрэднай дасягальнасці акупантаў – у сотнях акупаваных гарадоў і мястэчак Цэнтральнай і Усходняй Еўропы? І дзе, дарэчы, прыклады нямецкіх акцыяў знішчэння славянаў паводле этнічнай прыкметы?

Зусім блага ў Снайдэра з асэнсаваннем тых аспектаў германска-савецкіх адносінаў, якія займаюць у кнізе значнае месца, хаця і не выступаюць наўпрост прадметам даследавання. Возьмем, напрыклад, напад Германіі на СССР. Аказваецца, напярэдадні вайны Сталін хацеў, каб «*Саветы пераседзелі імперыялістычны перыяд гісторыі, як бы доўга ён ні цягнуўся*», а «*ягоныя страхі хутчэй тычыліся Японіі ды Польшчы, ці абкружэння Японіяй, Польшчай і Германіяй, чым нападу Германіі*» (с. 159).

Аказваецца, галоўнаю праблемаю для Гітлера і Сталіна быў брытанскі флот; каб «абысці» гэтую праблему, Гітлер хацеў пабудаваць сваю кантынентальную імперыю, а Сталін – адстаяць сваю. Як высвятляецца, Гітлер проста хацеў атрымаць землі Украіны і мець дастаткова харчоў, каб абараніцца ад брытанскай блакады (с. 160–164). Такім чынам, у 1940–1941 гадах не Германія ладзіла блакаду Брытаніі, а наадварот! Ну а Сталін, як водзіцца, атрымаў больш як сотню паведамленняў пра хуткі напад Гітлера, але вырашыў праігнараваць іх, дый увогуле не верыў, што вайна прыйдзе ў 1941 годзе. У выніку «Гітлер прадаў Сталіна», але свае эканамічныя праблемы гэтым не вырашыў. І гэта пішацца не ў 1980-м, а ў 2010 годзе!

Пры ўсім пры гэтым кніга «Крывавыя землі» вартая ўвагі паспалітага чытача – асабліва на фоне сучасных беларускіх падручнікаў кшталту «Вялікая Айчынная вайна савецкага народу (у кантэксце Другой сусветнай вайны)» (Вялікая Айчынная, 2006) ды іншага гістарычнага афіцыёзу з аднаго боку, і працаў некаторых добранамерных, але неахайных у плане лічбаў і фактаў незалежных гісторыкаў – з другога. Хаця кніга арыентаваная на маладасведчанага заходняга чытача (Снайдэр нават пазбягае ўжывання тэрміну «Галадамор» з прычыны яго невядомасці англамоўнай публіцы), яе інфарматыўнасць больш чым дастатковая для неспецыялістаў.

Дзякуючы таму, што Снайдэр пераважна спрачаецца з заходнімі канцэпцыямі таталітарызму ды імкнецца разбурыць дамінантныя на Захадзе стэрэатыпы, ён амаль не дэбатуе пытанняў, вакол якіх віруе дыскусія ў постсавецкай прасторы (напрыклад, пра ролю і месца партызанскага руху). У выніку дасягаецца досыць нехарактэрны для тутэйшага гістарычнага дыскурсу эфект адстароненасці ад надзённых ідэалагічных і палітычных спекуляцыяў, гэтакі «абстрактны гуманізм» самага лепшага гатунку.

Снайдэр паставіў сваёй мэтаю супрацьстаянне нацыяналістычна-дзяржаўніцкай «прыватызацыі» ахвяраў таталітарызму і справіўся з гэтаю задачаю. Нават у тых выпадках, калі гаворка ідзе пра забойствы людзей паводле нацыянальнай (Халакост), класавай («кулацкая аперацыя» НКУС 1937–1938 гадоў) або якой іншай («пасобнікі партызанаў») прыкметы, Снайдэр настойліва акцэнтуе людскасць ахвяраў і, наколькі гэта ўвогуле магчыма, паказвае ўнікальныя чалавечыя лёсы, схаваныя за сухімі лічбамі чалавечых стратаў.

**Літаратура, якая згадваецца ў рэцэнзіі**

1. Бойко, И. (1966). «Тыл Западного фронта в первые дни Отечественной войны». *Военно-исторический журнал*, №8.
2. *Вялікая Айчынная вайна савецкага народу (у кантэксце Другой сусветнай вайны).* Курс лекцый (2006). Новік, Я. К., Новік, Н. Я. Мінск: БДУІР.
3. *Нацистская политика геноцида и «выжженой земли» в Белоруссии (1941–1944)* (1984). Минск.
4. *Жизнь и смерть в блокированном Ленинграде. Историко-медицинский аспект* (2001). Санкт-Петербург.
5. Generalplan Ost, Der (1958). Vierteljahreshefte für Zeitgeschichte, Heft 3.
6. Gerlach, C. (1999). Kalkulierte Morde. Die deutsche Wirtschafts-und Vernichtungspolitik in Weisrussland 1941 bis 1944. Hamburg.
7. Jewish Journal, The. 31 Dec 2010.
8. Economist, The. 14 Oct 2010.